*Жывёлаводы калгаса імя Заладарскага з фермы вёскі Гравій Мікалай Графімавіч Мацюшэнка (на здымку злева), Юрый Іванавіч Пракоп, Васіль Раманавіч Гурскі і Валерый Мікалаевіч Шатрукоў лічацца лепшымі ў гаспадарцы.*

*Гэтыя працавітыя сяляне падтрымліваюць заўсёды належны парадак на ферме, своечасова і ў патрэбнай колькасці падвозяць кармы каровам, а летам пасвяць буронак на лузе.*

*— Ад іх старання добрыя вынікі і ў нас,— кажуць даяркі.*

**Фота І. ТКАЧОВА, Краснапольскі раён.**

## БЕСЕДЫ ПО ЗАКОНУ БОЖИЮ

# ГЛАВНАЯ МОЛИТВА

Бог любит свое творение, любит каждого из нас. «И буду вам Отцем, и вы будете Моими сынами и дщерями, говорит Господь Вседержитель» (2-е послание к Коринфянам, 6-я гл. 18 ст.) И мы поэтому так же, как к своему родному отцу или родной матери, можем всегда, в любое время, обращаться к Богу — к нашему Отцу Небесному. Обращение же наше к Богу есть молитва. Значит, молитва есть беседа или разговор наш с Богом. Она необходима для нас так же, как воздух и пища. Потому как у нас все от Бога и нет ничего своего: жизнь, способности, здоровье, пища — все дается нам Богом. Поэтому и в радости, и в печали, и когда что нам нужно, мы должны обращаться к Богу с молитвою.

А Господь очень добр и милостив к нам и если от чистого сердца, с верою и усердием будем просить Его о своих нуждах, он непременно исполнит наше желание и даст все, в чем мы нуждаемся. При этом надо всецело положиться на Его Святую Волю и терпеливо ждать, потому что только один Господь знает, что и когда нам дать — что нам полезно и что вредно.

В нашей сегодняшней беседе мы познакомимся с важнейшей молитвой —«Отче наш». Молитесь же так:

**«Отче наш, Иже еси на небесах! Да святится имя Твое. Да придет Царствие Твое, да будет воля Твоя яко на небеси и на земле. Хлеб наш насущный даждь нам днесь. И остави нам долги наши, яко же и мы оставляем должникам нашим. И не введи нас во искушение, но избави нас от лукаваго, яко Твое есть Царство и сила и слава Отце и Сына и Святаго духа, ныне и присно и вовеки веков. Аминь.»**

Молитва эта называется Господнею, потому что ее дал Сам Господь Иисус Христос Своим ученикам, когда они просили Его научить, как им молиться. Поэтому эта молитва — самая главная из всех молитв. В этой молитве мы обращаемся к Богу Отцу, первому Лицу Святой Троицы. Молитва разделяется на три части: призывания, прошения и славословия.

**ИЕРОДИАКОН ЛАВРЕНТИЙ**

Молитва «Отче наш»— важнейшая составная часть Нагорной проповеди Иисуса Христа. В десяти строчках евангельского текста (Мф. 6,9-13) заложены нравственные основы жизни последующих поколений. Безусловное влияние Нагорной проповеди с ее заповедями блаженства и молитвой Господней как квитэссенцией учения просматривается в культурах всех стран христианского мира. Нравственное учение Иисуса Христа возвышает человека, делает его милосерднее и чище душой. И если теперь мы видим наше несовершенство, то именно по контрасту с христианскими идеалами.

Молитва «Отче наш»— одна для всех людей разных времен и народов, принявших христианство. Когда-то и в нашем краю каждый ребенок к 5-6 годам знал наизусть эту молитву. Еще недавно, если кто-то чего-то простого не знал, ему говорили: ты же должен знать это, как «Отче наш». То есть слово в слове, от начала до конца, причем обязательно.

Но не вина наша, а беда, что многие из нас забыли, а то и не знали эту Святую молитву Господню. Может оттого мы и многое в жизни не знаем. И, скорее всего, потому так сейчас и живем.

Так давайте же все обратимся к Богу, научимся молиться, пойдем в Святую Церковь и через молитву и церковь познаем Бога и самих себя. А Закон Божий выучить легко будет тем, кто выпишет газету «Беларускі Усход». Мы будем печатать в этой газете материалы на религиозную тематику регулярно.

**КОЛЛЕКТИВ РЕДАКЦИИ.**



## НАШ ОБЩИЙ ДОЛГ, ЛЮДИ!

Старинный храм — Свято-Троицкий Собор в Хотимске — стоит сегодня обезглавленный, с полуразрушенным фасадом, с оскверненными стенами и внутренними помещениями Святой Обители. Бывший когда-то гордостью жителей Востока Белой Руси, украшением и источником одухотворения народной жизни, он стал нашим позором — здесь столько лет господствовало богохульство.

Немедленное восстановление Храма, возвращенного, наконец, верующим и в их лице всему местному народу — задача непосильная. Но начинать восстановительные работы нужно уже сейчас, сегодня, всем миром. Это наш общий долг, люди! Каждый из нас должен внести свою посильную лепту в это дело, иначе Бог не обратит к нам Своего Лика.

Любой путь в сотни вёрст начинается с первого, хотя бы и маленького шага. Пусть первым шагом в восстановлении Свято-Троицкого Собора будут наши скромные пожертвования, а у кого есть силы — и личное участие в разборке и удалении из помещения храма оскверняющих его нагромождений.

Жители Хотимщины! Верующие и атеисты! Пусть актом всенародного покаяния станет наш труд по возрождению Храма. Пусть этот труд станет малой данью уважения нашего заблудшего поколения к той Вере и Любви, которыми вдохновлялись строившие этот храм наши благочестивые предки. Пусть весна и лето 1992 года переломного в исторической судьбе Восточного Края и всей Белой Руси — станут временем избавления нашего Храма от поругания, временем восстановления его в первозданном виде и предназначении.

**В. ДОЛГОЛЁВ.**

## ХОЗЯЮШКЕ НА ЗАМЕТКУ

**Сегодня мы начинаем постоянную рубрику «О ВКУСНОЙ И ЗДОРОВОЙ ПИЩЕ».**

**УМЕТЬ ВКУСНО ГОТОВИТЬ.**

Питание — одно из главных условий существования человека. Проблема питания — одна из основных проблем человеческой культуры.

Правильное питание — важнейший фактор здоровья, оно в значительной мере определяет длительность жизни, задерживает наступление старости.

Питаться разумно — значит удовлетворять потребности организма с учетом физиологических особенностей и условий жизни.

Пища должна быть не только полноценной по количеству, составу и сочетанию питательных веществ, но и вкусной. Невкусная пища плохо усваивается организмом и поэтому малополезна. Академик И. П. Павлов утверждал, что «...нормальная и полезная — еда с аппетитом, еда с испытываемым наслаждением.» Поэтому каждой хозяйке хочется уметь дома готовить питательно, вкусо, гигиенично, экономно и быстро.

Вводимая с этого номера нашей газеты рубрика «О вкусной и здоровой пище» имеет целью помочь домашним хозяйкам готовить для семьи вкусную и здоровую пищу.

Приглашаем умелых хозяюшек, профессионалов-поваров, кондитеров принять активное участие в подборке и подготовке к печати материалов под этой рубрикой. Поделитесь, пожалуйста, своими секретами, опытом, рецептами приготовления вкусных и питательных блюд и напитков.

**АЗЫ РАЦИОНАЛЬНОГО ПИТАНИЯ**

Наиболее благоприятным для организма человека следует признать питание, в котором белки составляют 14 процентов по калорийности, жиры около 30 и углеводы — около 56 процентов. Такая пища хорошо усваивается организмом.

***

Поваренной соли взрослому человеку при питании смешанной пищей требуется в день 10-15 граммов. Если при тяжелом физическом труде человек теряет много пота, потребность в ней увеличивается до 20-25 граммов в сутки. Такое же количество соли необходимо, если в рационе преобладают растительные продукты.

***

Наилучшим режимом питания следует считать четырехразовый приём пищи. Первый, утренний завтрак, должен содержать 25-30 процентов всего суточного рациона, второй завтрак — 10-15, обед 40-45 и ужин — 15-20 процентов.

***

Мясо, рыбу, яйца, бобовые продукты рациональнее использовать для завтрака и обеда. На ужин следует оставлять овощные и крупяные блюда, простоквашу, кефир.

## ДЕТСКИЕ ЧТЕНИЯ

# Притча о блудном сыне

Мы часто грешим и, согрешив, сами понимаем, что поступили нехорошо. Но недостаточно чувствовать, что наши мысли и поступки грешны, нужно в своем грехе еще покаяться, просить прощения у Бога и у тех, кого мы обидели, стараться больше грехов не делать.

Вот какую притчу о покаянии рассказал наш Иисус Христос, чтоб объяснить Божие милосердие.

Было у богатого человека два сына. Младший не захотел трудиться в отцовском имении и попросил отца выделить часть имущества, которая досталась бы ему по наследству. Отец выполнил его просьбу, и сын ушел с полученным богатством в далекую страну, где он очень быстро растратил свое состояние на грешные и дурные удовольствия. Когда же у него ничего не осталось, в той стране настал голод и нужда. Пришлось наняться за бесценок пасти свиней у одного из жителей. Голод так мучил нового свинопаса, что он был бы рад насытиться кормом, который давали свиньям, но бедолаге и этого не перепадало.

Отчаявшись, стал он думать: «У моего отца столько работников, и все они сыты, а я здесь умираю от голода. Пойду домой и скажу ему: «Батюшка, я согрешил перед Богом и перед тобою и не достоин называться сыном твоим, возьми меня в работники».

Поднялся он и пошел к отцу своему. Издалека завидел его отец и сжалился над ним, вышел ему навстречу, обнял его и поцеловал. Сын же сказал ему:

— Согрешил я перед Богом и перед тобою и не достоин называться сыном твоим.

— Принесите лучшую одежду,— приказал отец слугам своим,— оденьте его, дайте кольцо на руку, а на ноги — мягкую и удобную обувь. И заколите откормленного теленка: станем есть и веселиться и радоваться возвращению сына моего.

В это время с поля возвратился старший сын.

— Что это значит?— спросил он слугу, услышав музыку и пение.

— Брат твой вернулся,— ответил слуга,— и отец твой угощает всех, потому что младший сын его оказался жив и здоров.

Старший сын рассердился и не захотел войти в дом. Отец звал его, но тот стал упрекать отца в несправедливости к себе:

— Сколько лет я добросовестно тружусь и всегда слушаюсь тебя, а ты не дал мне и малого козленка, чтоб я повеселился с друзьями. Когда же явился сын твой, промотавший все имущество, ты заколол для него откормленного теленка!..

— Сын мой!— ответил ему отец.— Ты всегда со мною, и все мое — твое. Но как же не радоваться и не веселиться, если брат твой был мертв — и ожил, пропадал — и нашелся.

Притча эта называется о блудном (то есть непослушном, своевольном) сыне и показывает, с какой радостью и прощением Небесный Отец принимает всякого грешника, приходящего к Нему с раскаявшимся сердцем.

Каждый из нас получает от Бога наследство, как получил блудный сын от отца: здоровье, способности к учению, какой-нибудь особый талант или умение. Когда мы плохо употребляем данные нам Господом дары, мы поступаем подобно блудному сыну, растратившему отцовское наследство. И как часто дурные наши поступки приводят нас к несчастью, к горю, к беде. Мы жалуемся, огорчаемся, что люди нас обижают и Бог нас забыл... Но...

Вспомните, как решился блудный сын вернуться к отцу со словами покаяния.

Как надо каяться и просить прощения у Бога? Этому учит нас Церковь, которая установила для всех православных христиан Тайну Покаяния — Исповедь.

Как исполнится ребенку семь лет, то есть когда он уже начинает понимать, что такое добро и что такое зло, каждый раз перед тем, как причаститься Святых Тайн, он должен исповедоваться, рассказать Богу перед священником, в чем согрешил.

Священник слушает нашу исповедь, как свидетель перед Богом, дает нам полезные советы и потом произносит молитву, которой прощаются наши грехи. Власть прощать грехи сам Господь Иисус Христос передал своим ученикам и апостолам, а от них ее получили наши епископы и священники.

Идя к исповеди, мы должны тщательно приготовиться, вспомнить все нехорошее и недоброе, что сделали, попросить от всего сердца прощения у всех, кого мы могли чем-нибудь обидеть.

Если мы умышленно утаим какой-нибудь неблаговидный свой поступок, то исповедь наша будет недействительна и вина наша только увеличится. Самое же главное — это искренне сожалеть о своих грехах и изо всех сил стараться с Божией помощью от них избавиться.

